

Адзін з жылых участкаў мікрараёна (Да артыкула на стар. 2. п. з. «На былой пустэчы»)


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (254) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 24 СНЕЖНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## ЗАПЫТАННЕ

Не жывуць на Марсе марсіяне,
Працай рук не жывяць дол глухі,
Марс даўно іх у сваім кургане
Пахаваў за нейкія грахі.

Час усмерціў іх, ці даканалі
Сваркі, не пазбытыя ў свой час?
Як маршчыны на чале, каналы
З запытаннем звернуты да нас:

«Адкажы нам, астраном - аматар,
Растлумач, вучоны чалавек,
Для каго, шырэйшыя ад рэк,
З полюса сівога на экватар

Мы ваду ганяем з веку ў век?
Ты за намі назіраў увосень
Праз трубу падзорную ўначы —
Горы пылу над планетай носяць
Радыёактыўныя смярчы...
Толькі нас чамусьці смерць не косіць.»

Што ім адказаць на запытанне?
Можа сапраўды іх існаванне
Больш патрэбна для планет другіх,
Можа гэта ў час процістаяння
Неўміручай працай рук сваіх
Нас засцерагаюць марсіяне
Ад бяды, што не мінула іх.

ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ «НІВЫ» ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ СВЯТОЧНЫЯ ПАЖАДАННІ.
РЭДАКЦЫЯ

ВІКТАР РУДЧЫК

# АБ СУПОЛЬНЫМ ЧАС ПАДУМАЦЬ

У Беластоцкім ваяводстве існуе 22 спулдзельні прадукцыйныя, але амаль палова гэтых спулдзельняў не мае добра пастаўленай супольнай гадоўлі жывёлы. Дзевяць кааператываў не можа пахваліцца нават дваццацю штукамі кароў на кожныя 100 гектараў зямельных угоддзяў. Факт як найбольш адмоўны. Да ліку гэтых кааператываў належыць, між іншымі, спулдзельня ў вёсцы Крывой, Бельскага павета. Члены гэтай спулдзельні працуюць супольна ўжо 10 год, аднак з супольнай гадоўляй там дрэнна.

У мінулым годзе ў спулдзельню ў вёсцы Крывая запісалася шмат новых членаў, павялічылася плошча зямельных угоддзяў, але не змянілася аднак становішча супольнага статку. Чаму? Перш за ўсё таму, што новыя члены задаволіліся толькі далучэннем зямлі да спулдзельчай, а жывёліну пакінулі сабе. Лічылі сябе спулдзельцамі, а далей трымалі па дзве, тры і больш кароў.

Такое становішча не толькі ў новапрынятых членаў і не толькі ў Крывой. Бадай што не знойдзецца ніводзін спулдзельца, які гадаваў бы менш жывёліны, працуючы на супольным, чымся тады, калі гаспадараваў самастойна. Пры такіх умовах зусім натуральным з'яўляецца малое зацікаўленне ў развіцці супольнай гадоўлі. Член патрабуе ад спулдзельні толькі корму. Яму абыякавым становіцца таварная эфектыўнасць прадукцыі сваёй калектыўнай гаспадаркі. Ён толькі дбае пра тое, каб як найбольш мець для **сваіх кароў, для сваіх свіней, для сваіх авечак.** Таму вось на палях спулдзельняў Беласточчыны так многа (напэўна замнога) месца займаюць збожжа і бульба, таму праяўляюцца спробы пашырэння прысядзібных участкаў, а нават спробы «ціхай» апрацоўкі шырэйшай плошчы зямлі.

(Працяг на стар. 4.)

## С. 151/61... С. 235/61...

МІХАСЬ КУРАШ

Вёску Рыбакі ў Беластоцкім павеце аддзяляе ад вёскі Лука ў Гайнаўскім павеце рака Нарва, якая з'яўляецца натуральнай граніцай паветаў у гэтай аколіцы. Вёскі знаходзяцца ад сябе ў адлегласці толькі кіламетраў 3. Звычайна, такая адлегласць садзейнічае добрасуседскім адносінам жыхароў вёсак, асабліва моладзі, якая не любіць адзіноцтва. Але паміж гэтымі дзвюма вёскамі склаліся зусім іншыя адносіны, чымсьці гэта нармальна бывае.

### ...ВІНАВАТА ЎРОЧЫШЧА «ПЕРАВОЗ»

Царскі ўказ аб вызваленні сялян з-пад панскай няволі з 1864 г. пакінуў нямала клопатаў сялянскім масам. Ва ўладанні памешчыкаў засталося шмат зямлі, лішак якой яны яшчэ праз доўгія гады прадавалі сялянам. Так сталася і з урочышчам «Перавоз», якое знаходзіцца над ракою Нарвай, паміж вёскамі Лука і Рыбакі. Каля 27-мі гектараў гэтага ўрочышча фармальна прыпала з надзелу жыхарам вёскі Лука і Слабодка (паводле плана, які быў апрацаваны ў 1873 г.). Але ўладальнік маёнтка Тарнопаль Людвік Бялінскі ва ўспамянутым урочышчы надалей бачыў сваю ўласнасць. У 1902 г. яго зяць, нейкі Ляскоўскі, прадаў жыхарам вёскі Рыбакі ўрочышча «Перавоз» плошчаю ў 27 га ў выглядзе дазволу на пасенне кароў. Ад 1906 г. паша становіцца законнай саўласнасцю рыбачан. З таго часу жыхары вёскі Лука сваіх суседзяў, жыхароў вёскі Рыбакі, пачалі лічыць не інакш, як толькі... заццятымі сваімі ворагамі.

Рыбачане ганялі пасвіць на «Перавоз» свае каровы, а лучане прыганялі не толькі каровы, але авечкі і гусі, а вясною і восенню нават пасвіліся тут іх свінні.

(Працяг на стар. 5)



Інструментальны калектыў са Шчытоў. Фота К. Сэндзікоўскі

 

# ПІСЬМЫ ЛУЧЫНЫ

М. КАНАПАЦКІ

Багатая творчая спадчына Янкі Лучыны, які пісаў на трох мовах: беларускай, польскай і рускай, з'яўляецца цікавай старонкай у гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Творчасць аўтара «Вязанкі» ўяўляе сабою новы крок у ідэйна-мастацкім развіцці беларускай дакастрычніцкай паэзіі, сведчыць аб няўхільным выспяванні ў яе нетрах творчага метада — крытычнага рэалізму. Дагэтуль, у асноўным, крыніцай думак і меркаванняў аб грамадскіх ідэалах і эстэтычных адносінах да рэчаіснасці Лучыны з'яўляліся яго творы. Адсутнасць нейкіх дзённікавых запісаў, лістаў ці асабістых выказванняў паэта ў значнай ступені абмяжоўвала нашыя веды аб ім. І вось выяўленыя нядаўна ў рукапісным аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве лісты паэта павінны ў пэўнай ступені пашырыць гэтыя веды. Значная вартасць Лучынавых лістаў заключаецца яшчэ ў чым іншым. Гэта яшчэ адзін доказ роднасці беларускай і польскай літаратур, іх шчыльных узаемаадносін, якія зарадзіліся ў змрочныя часы царызму.

Лісты Янкі Лучыны адрасаваныя да выдатных тагачасных польскіх літаратараў Зэнона Пшэсмыцкага і Аляксандра Валіцкага. З. Пшэсмыцкі (1861—1944) з'яўляўся вядомым літаратурным крытыкам, паэтам і перакладчыкам. Ад 1886 года быў рэдактарам літаратурнага часопіса «Жыцце», а ў 1900 — 1907 г.г. працаваў у часопісе «Хімера». Калі разыходзіцца аб Аляксандра Валіцкага (1826—1893), дык у яго выпадку маем дачыненне не толькі з вядомым тагачасным літаратарам, але і музычным крытыкам, дарэчы, вялікім прыяцелем Станіслава Манюшкі. А. Валіцкі шмат год працаваў у «Кур'еры віленскім». Ад 1872 года Валіцкі загадваў друкарняй «Анчыца» ў Кракаве.

У паперах З. Пшэсмыцкага захоўваецца 9 Лучынавых лістаў, з якіх 5 датуецца 1887—1888 г.г.; 3 лісты маюць толькі адзначаны дзень і месяц, а адзін зусім без даты; 3 лісты да А. Валіцкага датуюцца 1882, 1884 і 1889 гадамі. Усе гэтыя матэрыялы прадстаўляюць вялікую вартасць. Аднак характар нашага часопіса не дазваляе заняцца больш грунтоўным аналізам іх зместу. Таму пазнаёмім нашых чытачоў толькі з некаторымі пісьмамі Лучыны, асабліва з тымі, якія заключаюць у сабе найбольш знамянальны змест.

Значную цікавасць прадстаўляе вершаваны ліст Я. Лучыны да З. Пшэсмыцкага ад 4 чэрвеня 1887 года. Ён з'яўляецца каштоўным дакументам аб палітычных і эстэтычных поглядах паэта. У гэтым лісце паказаў сябе Лучына заўзятым ворагам акружаючай яго рэчаіснасці, ворагам безідэйнасці ў літаратуры. Змест Лучынавых лістаў набывае асаблівага значэння на фоне тагачаснай удушлівай атмасферы, пануючай у філасофскай думцы, на фоне тых усіх ідэалістычных плыняў 80-х гадоў, якія прапаведвалі песімізм і адыход ад рэчаіснасці. Прыгадваю ніжэй фрагмент з гэтага пісьма Лучыны:

(Працяг на стар. 4)

I szumią i z wiatrem falują jak morze
Zagony pszeniczne i żytnie...
Usiądźmy na kamień, niech owieje nas zboże,
Co gwarzy tak słodko i skrytnie.

Niech niwa ojczysta swą pieśnią ukoi,
Niech szmerem znajomym zagłuszy
Po szczęściu straconym i życia piołunie
Żal gorzki i smutek mej duszy.

O łany ojczyste, rodzinne wy niwy!
Taksamo, jak dawniej szumicie.
Żyłem pełen nadziei przyszłością szczęśliwy
W kwitnącym biegł napić się życiem.

A dziś inaczej, o inaczej potrąca
O struny mej duszy szmer kłosów.
Ze szczęścia już fala nie mówi kwitnąca,
Radosnych już nie ma dziś głosów.

Фрагмент Лучынавага рукапісу «Акварэлек мысліўскіх»

Маланкавая анкета

## ГОЛАС МАЕ „ЛЯВОНІХА"

ЛЮБА ТОМЧЫК — эстрадны канферансье і салістка. Нарадзілася ў Баброўніках, Беластоцкага павета (20 год, пакуль што незамужняя).

У мінулым годзе, пасля заканчэння ліцэя ў Беластоку, сустрэлася з «Лявоніхай», палюбіла яе і пачала тут працаваць. Зараз Люба Томчык, так сказаць, іграе першую скрыпку ў «Лявонісе».

— Калі найбольш хвалявалася? Мабыць тады, як здавала экзамен у Беластоцкую музычную школу. Але здала на выдатна.

— Праца ў эстрадзе нялёгкая, — гаворыць Люба. — Умовы да выступленняў таксама не найлепшыя. Бываюць выпадкі, што даем па тры канцэрты ўдзень. Тады чуюся стомленай, трачу добры настрой. А вядома, канферансье, або салістка, без настрою гледачоў не зацікавіць. Аднаго разу прыехалі мы ў вёску позна. Было вельмі холадна. Зала не атоплена. Выйшла я спяваць. Была ў такім настроі, што мне не спяваць, а плакаць хацелася. Спяваю я і чую, да ног дакранаецца нешта мяккае, ласкавае. Гляджу, а гэта кот. Адпіхнула яго нязначна, а ён ізноў да ног маіх ліпне. Трэцца, ды так казыча, што вытрымаць нельга. Я пырснула смехам, прысутныя таксама. Настрой паправіўся, і канцэрт удаўся. Такія прыключэнні застаюцца надоўга ў памяці.



## За вышэйшы ранг дзеяча культуры

Міжваяводскі нацыянальны семінар, які адбыўся 8 і 9 снежня ў Беластоку, моцна падкрэсліў ролю, якую павінен адыграць працаўнік культуры ў сваім асяроддзі. Сучасны дзеяч культуры — гэта перш за ўсё выхавацель. Ад яго адукацыі, узроўню працы, ад яго ўмеласці, уплыву на асяроддзе залежыць поспех культурна - асветнай дзейнасці. Кожны працаўнік культуры, які імкнецца быць на ўзроўні сваіх абавязкаў, павінен сам сябе запытаць: якія грамадскія вынікі прыносіць мая праца, на колькі пабуджае яна сілы грамадскасці, на колькі садзейнічае сужыццю паміж людзьмі?

Заданні дальнейшага паглыблення грамадскай функцыі культурна - асветнай працы патрабуюць ад працаўнікоў культуры пэўных даследванняў асяроддзя, у якім яны працуюць, выклікаюць неабходнасць сталай самаадукацыі і самавыхавання. Бо толькі той чалавек, які многа ведае, можа належна арганізаваць і кіраваць культурна-асветнай працай у павятовым доме культуры, у бібліятэцы, у таварыстве ці іншай установе.

На ўсе гэтыя праблемы на семінары звярталі асаблівую ўвагу дырэктар дэпартаменту культурна - асветнай працы і бібліятэк у міністэрстве культуры, Чэслаў Калужны і навуковы супрацоўнік Варшаўскага універсітэта, доктар Эдуард Мазуркевіч.

Дырэктар дэпартаменту Чэслаў Калужны падкрэсліў неабходнасць дапамогі нацыянальным меншасцям праз рады нарадовыя, а асабліва праз іх аддзелы культуры і ваяводскія дамы культуры. Гэта дапамога павінна заключацца ў забеспячэнні абсталявання для клубаў і святліц, забеспячэнне «фаховым» інструктажам і інструктарамі ў развіцці самадзейнага руху.

У планах працы Ваяводскага дома культуры і Ваяводскай бібліятэкі павінна знайсці адлюстраванне праблематыка нацыянальных меншасцей.

(Працяг на стар. 7)

*

На чыгунцы, што праходзіла праз Капцэвічы, рух пасля выбуху быў адноўлены, і ў вартавых будках ізноў сядзелі славацкія салдаты. Немцы занялі ўчастак, што ляжаў ніжэй вёскі.

Наступіў ужо вечар, а Таня ўсё яшчэ не прыходзіла. Чапловіч нецярпліва выглядаў з-за вартавой будкі і непакоіўся: ці не здарылася з ёю якое няшчасце? Тры разы адбіраў у Дворскага бінокль і глядзеў удалеч.

Дворскі ўжо даўно заўважыў, што Таня падабаецца Чапловічу. Ён падышоў да яго, пляснуў яго па плячы і засмяяўся:

— Не прыйдзе яна. Партызана сабе знайшла.

— Глупства гаворыш.

— Думаеш, ты ёй патрэбны? — не адступаўся Дворскі. — Яна і на Налепку не звяртае ўвагі, не тое што на цябе.

У біноклі мільганула дзявочая постаць. Чапловіч нібы аглох, ён толькі адштурхнуў плячом Дворскага, і твар яго ўспыхнуў. Гэта яна!

Калі Таня падбегла да будкі, сэрца Чапловіча ледзь не выскачыла. Паправіў шапку і, стаіўшы дыханне, падышоў да яе.

— Ну, як? — прывітаў яе ціха.

— Усё ў парадку, — адказала Таня.

Налепку яны засталі ў кабінеце. Убачыўшы Таню, ён ускочыў са стула і паціснуў ёй руку.

57

— Ну, як дайшлі? Я ўжо непакоіўся за вас.

Твары іх успыхнулі. Налепка збянтэжана пагладзіў сваю бародку і хутчэй, чым Таня магла яму адказаць, дадаў голасна:

— Расказвайце, Таня.

— Была я ў штабе, — адказала яна. — Гадзіны са тры пехатой ішла. Двух знаёмых там бачыла. Папа з Пакалова і, уявіце сабе, былога Сашавага аднакласніка. Ён не ведаў, што Саша зараз у партызан.

Таня крыху сумелася. Яна нясмела паглядзела на Налепку.

Калі Таня ўспомніла пра Сашу, Налепку здалося, што яго абліў нехта халоднай вадой.

Таня дастала з-пад хусткі кавалак паперы, вырваны з вучнёўскага сшытка, і падала яго Налепку.

— Ведаюць пра вас. Прыслалі вам адказ.

Налепка ўсё яшчэ думаў пра Сашу.

— Папу я дала запіску, каб перадаў Сашу, — дадала Таня. — Ён пойдзе назад у Пакалова.

— Гэтага не трэба было рабіць, — сказаў Налепка, і Таня здрыганулася.

— Я вельмі стамілася, — Таня разгублена паглядзела на Налепку і пакрочыла да дзвярэй. У калідоры пачуліся крокі. Узяўшыся за клямку дзвярэй, Таня з дакорам у голасе прашаптала:

— Не кажыце так.

58

Сэрца Налепкі закіпела. Праз адчыненыя дзверы ў пакой прабіўся пучок жаўтавага святла. Таня адпусціла клямку, і вочы іх сустрэліся. Абапёршыся далоняй аб рог стала, Налепка мякка сказаў:

— Каб вы ведалі, як я вас...

Ён недагаварыў. На парозе з'явіўся Чапловіч з запаленай лямпай у руках. Таня выбегла на двор і ўсхвалявана прыхілілася да тонкай бярозкі. У яе вушах спявала: «Каб вы ведалі...»

Яна дрыжала ўсім целам, нібы нехта знянацку абудзіў яе ад моцнага сну. Гэта ён сказаў ёй. Ён!

Сэрца яе, нібы напалоханая птушка, білася хутка і моцна. Яна адчувала яго ва ўсім целе. Здавалася ёй, што сэрца разарвалася на дзве часткі і кожная з гэтых частак б'ецца асобна.

Налепка не ведаў, што Таня глядзіць на яго праз адчыненае акно. Ён сядзеў, падпёршы рукамі сваю стомленую галаву, а калі позірк яго ўпаў на паперу, што ляжала перад ім на стале, ён схамянуўся і пачаў чытаць.

«Дазвольце ад імя нашага ўрада перадаць Вам падзяку. Просім Вас да нашай сустрэчы з Вамі адказаць на наступныя пытанні:

а) дзе знаходзяцца чэшскія, славацкія, нямецкія, рускія, італьянскія і мадзьярскія войскі, іх колькасць і нумары часцей;

59



 

 






Першы раз за рулём.

# МІЖНАРОДНАЯ ТЭМА

Не люблю я спрачацца на міжнародныя тэмы. Міжнародная палітыка так заблытана, што сам чорт у ёй не разбярэцца.

Але нашы людзі вялікія аматары пагаварыць на міжнародныя тэмы. Яны не толькі гэта любяць, але проста не могуць прапусціць выпадку, каб не свой спосаб не вырашыць праблем, з якімі не могуць справіцца прафесіянальныя палітыкі.

Нядаўна зайшоў я ў буфет пацягнуць кружкай піва, а там ужо паўнюсенька. Буфетныя засядацелі абменьваюцца сваімі меркаваннямі, п'юць тосты.

У адным месцы ўзнялася гарачая размова аб Берліне. У другім зноў месцы спрэчка аб сістэмах снегазатрымання на палях. За трэцім столікам па косточкам разбіраюць грамадскія агранамічныя пункты.

— З дваццаці агранамовак у ваяводстве, — кажа адзін, — працуе толькі чатыры, бо для другіх аграномаў не хапае. Не вельмі нашы аграномы спяшаюць у вёску.

— Агранам за цябе працаваць не будзе, — кажа другі. — Калі ў гаспадара дзве рукі левыя, ніякі агранам яму не паможа.

Трэці, са спорыўшых, чалавек мне знаёмы, паказвае на мяне:

— Вось гаспадар, — кажа ён,—сам. без агранома ўраджай буракоў вырасціў ды прадаў іх на 30 тысяч. Лаўкач! Трыццаць кусочкаў палажыў у кішэню і нават магарычу не паставіў.

Пры гэтых славах усе галавы павярнуліся ў мой бок.

— Грамадзяне, півам залітыя, — кажу я. — Няма чаго хлусіць. Сабраў я буракоў на 15 тысяч, а напрацаваўся пры гэтым, як конь. Выкапаць, ачысціць, з поля прывезці, памыць, нагрузіць воз, адвезці на станцыю і вы-рузіць там іх — нялёгкая справа. У Фінляндыі, напрыклад, сельская гаспадарка пастаўлена высока. Там кожная вёска вырошчвае сваю, найкарысней-шую ёй культуру. Гаспадары спецыялізуюцца ў гэтым і высокія ўраджаі атрымоўваюць. А ў нас што? Трохгектаравы гаспадар вырошчвае 10—15 культур. Ці можа ў яго быць добры ўраджай?

— Бачылі прахвоста?! — закрычаў нехта. — Фінляндыі яму захацелася. Сярод нас жыве, а на фінаў заглядаецца.

Тут бачу і мой знаёмы, салідна падвыпіўшы, падыходзіць да мяне ды раве:

— Ах, ты чухонскі селядзец! З пралетарыятам прапіць 100 злотых шкадуеш, а да капіталістаў нос заварочваеш?! Стаў літроўку, хутка!

Адпіхнуў я нахабніка, а ён, падаючы, зачапіў столік. Узнялася такая Садома, быццам у буфеце землетрасенне прайшло. Тут і ўлада ў мундзіры з'явілася. Сёння непрыемнасцей ад гэтай справы хоць возам вывозь.

Самі бачыце, людзі добрыя, як небяспечна ўвязвацца ў спрэчкі на міжнародныя тэмы. А што ў нас трапляюцца людзі ласыя на дарэмшчыну, гэта ўжо другая справа.

*Дзядзька Лявон*

Канцлер Адэнаўэр супраць кантактаў Усход — Захад




— Я НЕ ЗГАДЖАЮСЯ!!!

## САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

### ЭКЗАМЕН

Агата закончыла курс язды на матацыкле. Пасля экзамену сяброўка яе пытае:

— Здала?

— Не, але гэта вельмі несправядліва. На два пытанні я ж адказала вельмі добра, а толькі на трэцім спатыкнулася.

— А якія былі пытанні?

— Першае: імя і прозвішча. Другое: год нараджэння. Трэцяе: што такое рухавік унутранага згарання.

### ШЧЫРЫ ПЛАЧ

На могілках, пры магіле стаіць чалавек.

— Чаму ж ты памёр, навошта нас пакінуў? — прыгаварвае ён, плачучы.

— Тут ляжыць ваш сын? — пытае прахожы.

— Не, тут ляжыць першы муж маёй жонкі, — адказаў чалавек.

**Янка Зда0ўскі**
Лесна

### ХВАРОБА

— Янук, чаго так стогнеш на печы, мо' табе галава баліць? — пытае бацька сына.

— Нeee...

— А мо' табе жывот баліць?

— Нeee...

— А мо' ты жаніцца хочаш?

— Ага!

**Міхась Бельскі**
Беласток

### ПАРАДА

— Я хацеў бы, доктар, пражыць 100 год.

— Гэта вельмі проста: не ўжывайце алкаголя, не курыце, абмінайце жанчын...

— І такім чынам пражыву 100 год.

— Гэтага я не ведаю. Адно толькі пэўнае, што час будзе вам здавацца страшэнна доўгім...

## БАРАНОЙ па ПУСТАЗЕЛЛІ

Кепскі такі гаспадар, які пачне пабудову, а закончыць яе не хоча. Смяюцца з такога людзі, пальцамі поруць. Менавіта такія схільнасці мае прэзідыум ГРН у Орлі, Бельскага павета. Тры гады таму назад па яго ініцыятыве была пачата будова святліцы у вёсцы Крывяцічы. Мерапрыемства гэта тут проста неабходнае. Нават бібліятэчнаму пункту не было адпаведнага месца на кніжкі. Таму ўсе жыхары Крывяціч з вялікім захапленнем успрынялі ініцыятыву прэзідыума. Яны грамадскім чынам заклалі фундамент, навазілі жвіру і забавязаліся выканаць усе нефаховыя работы. Дапамог і Інспектарат асветы ў Бельску. За яго сродкі закуплена пустакі і пастаўлена зруб аж па бэлькі. Даўно ўжо таксама выканана сталярку і зроблена чарапіцу. Не хапае толькі бэлек і лат пад чарапіцу. І тут уся справа разбіваецца аб абыякавасць прэзідыума ГРН. Прэзідыум лічыць, што хопіць толькі самай ініцыятывы і дапамагчы жыхарам Крывяціч у выканчэнні святліцы нізашто не хоча. Набліжаецца канец года. А сродкі прызначаныя на культурную дзейнасць бюджэтам ГРН — нявыкарыстаныя.

Як жа тады не пароць такога гаспадара?

## КАНЦЭРТ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Уладзіслава Саевіча з вёскі Рэпіска змяшчаем рускую песню:

# ВЕЧЕР НА РЕЙДЕ



Споемте, друзья, ведь завтра в поход
Уйдем в предрассветный туман.
Споем веселей, пусть нам подпоет
Седой боевой капитан.

Припев:

Прощай, любимый город!
Уходим завтра в море,
И ранней порой
Мелькнет за кормой
Знакомый платок голубой.

А вечер опять хороший такой,
Что песен не петь нам нельзя.
О дружбе большой, о службе морской
Подтянем дружнее, друзья!

Припев:

На рейде большом легла тишина,
А море окутал туман,
И берег родной целует волна,
И тихо доносит баян:

Припев:




Без слоў



— Туфлі гэтыя прыслалі мне з Парыжа.

 